ігра артыстаў шмат спагадала таму, што драма Якуба Коласа аставіла вельмі цяжкі настрой і нейкі страх за тых людзей, каторые гінулі за бутэльку гарэлкі. Аркестр балалаечнікаў пад кіраўніцтвам п. Бурвеля, выступіўшы пасьля драмы, паправіў прыгнечэнны настрой публікі. Гралі дружна і умела, хаця спачатку не хапала у музыкантаў адвагі і пэўнасьці. Відаць, што нечаста выступае на адкрытай сцэне гэны аркестр; так-ж ма ня лішнім будзе, калі аркестр павялічыць свой рэпэртуар мэлёдыямі беларускіх танцаў і песьняў, багацьце матываў якіх усім ведама. Будзем спадзявацца, што беларуская песьня у музыцы зойме на сцэні належнае ей палажэньне ідучы побач разам з неўпынным развіцьцем беларускага мастацтва, падніме высока беларускае слово, каторага ніхто з праўдзівых сыноў Беларусі не будзе ужо больш ніколі выракацца.

19-XI-19. Натусэвіч.

## Настаўніцкая вечарынка.

20 кастрычніка у „Беларускай Хатцы“ (Конны пляц) адбылася сямейная вечарынка настаўнікаў—слухачоў менскіх беларускіх курсаў. На сцэне пастаўлены быў сцэнічны жарт Чэхова „Мядзьведзь“, мэльодэклямацыя і дэклямацыя.

Жарт быў разыграны артыстамі-самавучкамі досыць слаба. Не было той жывасьці у дыяльогах, якая патрабуецца, калі людзі між сабой сварацца аж да абамленьня. Відаць, што ролі свае ня вельмі добра артысты знаді. А можа і дзеля таго, што у памяшканьні быў такі холад, што хоць з хаты уцякай. Лепей ігралі (сказаў-бы, зналі свае ролі) Наталка (п. Мархель) і Чыбух (п. Піліповіч) слабей Ламака (п. Пінчук).

З дэкляматараў выдзеляліся, першым, чынам—п. М. Зароская, дэклямаваўшая, як заўсёды са шчырым пачуцьцем. Л. Тарасік (дэклямаваўшая, пад музыку) і невядомы нам, што прадэклямаваў „Абразкі“.

Пасьля спэктаклю былі скокі каторымі публіка, як магла грэлася. Наагул, вечарынка прайшла жыва; трэба толькі пажадаць аднаго, каб на падобных гулянках больш было адведзена часу на частку сцэнічную, а менш на—танцавальную.

N.

Рэдактар-выдавец
Язэп. ЛУЦЭВІЧ.



Друкарня Інвалідаў, Менск.